Цана асобнага № 30 кап.

# Вольная Беларусь

ТЫДНЁВІК палітычны і літэратурны

УМОВЫ ПАДПІСКІ:

На год . . 12 р. —
На поўгода . 7 р. —
На 1 месяц . 1 р. 50 к.

ГОД ВЫДАННЯ II.

Ніхай жыве нізалежная Беларусь!

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі:

г. Менск, Захараўская, 18.

Перамена адрасу 50 к.

№ 28. 11-го жніуня 1918 г. № 28.

## Што трэба ведаць кожнаму беларусу?

### I. Беларускі народ.

*Хто мы?*

Мы — беларусы.

*Хто есьць беларусы?*

Беларусы — гэта народ славянскаго племя.

*Чаму мы называемся беларусамі?*

Бо мы нарадзіліся беларусамі, ускарміліся з беларускае зямлі, узгадаваліся і жывом на Беларусі.

*Хто гэта — беларус?*

Беларус той, у чыіх жылах цячэ беларуская кроу, чые прадзеды, дзяды і бацькі былі беларусамі.

*Як называецца той, хто вырэкаецца свайго народу?*

Той, хто вырэкаецца свайго народу,— здраднік, душапрадаўца. Здрада — гэта найцяжэйшае ліхадзейство, якое толькі ведаюць людзі. Дзеля гэтаго мы ніколі ні пакінем свайго народу. Шчыры беларус, праўдзівы сын свайго народу заўседы будзе тэй думкі: «Ніхай лепей загіну, чымсі адракуся ад свайго народу беларускаго». Бо з Беларусьсю і з беларускім народам зьвязано нашае жыцце. Гэта нашае найвышэйшае добро, нашая радасьць і слава.

*Што такое народ, або нацыя?*

Народ, або нацыя, гэта людзі, каторыя гаворадь аднэй мовай, заселяючыя супольны край і праз гэта складаючыя адну вялікую сямью, народ, нацыю.

*Хто прыналежыць да народу, або да нацыі?*

Кожны, хто паходзіць з аднаго народу, або нацыі. Прыналежнасьці да нацыі ці народу нельга выбіраць паводле свайго густу, ці спадобы. Прыналежным да народу стаецца кожны чалавек ужо па сваей крыві, па сваей прыродзе, целам і душой сваей. Сьвядомым грамадзянінам народу свайго становіцца беларус толькі тагды, калі ен усьвядоміцца,—гэта значэ спазнае добра, хто ен сам ды пачуе духоўную і кроўную зьвязь з усім сваім народам.

Народная сьвядомасьць зближае і злучае людзей у адну моцную сямью. Даражэйшы і мілейшы нашаму сэрцу будзе кожны беларус, хоць-бы ен найдалей ад нас жыў, бо ен прыналежыць да нашаго народу беларускаго, бо гэта наш брат па народнасьці. Усе іншыя народы, хоць-бы яны і жылі на Беларусі, аднак яны нам чужыя, бо яны спагадаюць і любяць кожны свой народ і сваю Бацькаўшчыну, а з нашае зямлі і народу толькі цягнуць для сябе сокі.

*Ці есьць іншыя народы?*

На сьвеці многа розных народаў. Кожны іншы народ нам чужы, а есьць паміж імі і цяжкія нашыя ворагі, якія здаўна ужо упарта працуюць над тым, каб беларусаў выгубіць ды самым заняць нашую зямлю і нашае добро. Кожны такі вораг стараецца угаварыць цемных нашых братоў, каб яны выракліся свайго роднаго: і мовы, і песьні, і граматы, а замест нашаго, роднаго, падсуваюць свае, чужацкае. Асьцерагайцеся-ж, браты, такіх авечак у воўчай скуры!

### II. Беларуская зямля.

*Дзе жывуць Беларусы?*

Беларусы жывуць на сваей Беларускай зямлі. Беларуская зямля уся тая, дзе жывуць Беларусы.

*Як вяліка Беларусь?*

Беларусь вялікая старонка. Па свайму абшару Беларусь займае сярэдняе мейсцо паміж Італіей і Эуропэйскай Турцыей.

| | | |
|---|---|---|
| Аустрыя | займае | 600. 000 км. |
| Нямеччына | „ | 540. 000 „ |
| Францыя | „ | 536. 000 „ |
| Англія | „ | 315. 000 „ |
| Італія | „ | 286. 000 „ |
| *Беларусь* | „ | *258. 000* „ |
| Турцыя | „ | 130. 000 „ |
| Румынія | „ | 131. 000 „ |
| Баўгарыя | „ | 96. 000 „ |
| Португалія | „ | 91. 000 „ |

Якая-ж то дужая будзе дзяржава з Беларусі, калі станецца яна ад нікога нізалежная ды стане справавацца сама, сваімі людзьмі, беларусамі!

*Ці жывуць Беларусы па-за межамі Беларусі?*

Дзеля таго, што над Беларусамі пануюць чужынцы, ні раз прымушаны былі Беларусы пакідаць сваю Бацькаўшчыну ды выціраць чужыя куткі. Вельмі многа Беларусаў перасялілося у Сібір, у Амэрыку, у Бразылію, у Азію, а такжэ па усей Маскоўшчыне.

*Колькі усіх Беларусаў?*

Беларускаго народу жыве на сьвеці 10 мільёнаў. Паміж эуропэйскімі народамі Беларусы займаюць 9-е мейсцо. Лічба народаў Эуропы (ні лічучы іншых частак сьвету) выглядае так:

| | | |
|---|---|---|
| Немцаў | 74 | мільен.. |
| Маскалеў | 65 | „ |
| Французаў | 42 | „ |
| Англікаў | 40 | „ |
| Італьянцаў | 34 | „ |
| Украінцаў | 33 | „ |
| Гішпанцаў | 18 | „ |
| Палякоў | 15 | „ |
| *Беларусаў* | *10* | „ |
| Румынаў | 9 | „ |
| Жыдоў | 9 | „ |
| Голендраў | 8 | „ |
| Вэнграў | 7 | „ |
| Чэхаў | 7 | „ |
| Фінаў | 7 | „ |
| Швэдаў | 6 | „ |
| Баўгараў | 6 | „ |
| Грэкаў | 5 | „ |
| Португалаў | 5 | „ |
| Сэрбаў | 5 | „ |
| Туркаў | 5 | „ |
| Норвэжцаў | 5 | „ |
| Ірляндцаў | 4 | „ |
| Літвіноў | 3 1/2 | „ |
| Харватаў | 3 | „ |
| Славакаў | 3 | „ |
| Славінцаў | 2 | „ |
| Албанцаў | 1 | „ |

### III. Беларуская мова.

*Што такое народная мова?*

Народная мова тая, якой гаворыць увесь народ. Кожны народ мае сваю родную мову і ей усюды гаворыць. Родная мова вялікае народнае багацце, якое народ павінен высока цаніць і пялегаваць.

*Па чым лягчэй спазнаць, што мы Беларусы?*

Найлягчэй гэта спазнаць па нашай мове. Мова злучае людзей у адзін народ. І нашая беларуская мова злучае звыж 10-і мільёнаў Беларусаў у адзін народ.

*Чаму мы гаворым беларускай мовай?*

Бо яна наша родная, а кожны чалавек любіць сваю родную мову: немяц — нямецкую, баўгарын — баўгарскую, а беларус — беларускую. І усе, што пекнае, што добрае, усе мудрасьці сьвету — навуку, літэратуру—мы найлепей разумеем і любім, калі чуем у сваей роднай мове. У сваем доме мы, бывае, мала бачым сваю любоў да нашай мовы, затое, будучы на чужыне, як толькі пачуем нашую мову, дык вельмі цешымся. Бо чалавеку наймілей чуць і гаварыць сваей роднай мовай.

лі смакталі нашую кроў!..

— Прэч! Далоў!

— Бунт! Стрэляць!—крыкнуў прыстаў, згубіўшы прытомнасьць.

— Які бунт?! На што палохаць чорта ў балоці! Убірайся ты к чортавай матары!

— А вось я яму пастрэляю, пачакай трошкі!—крычаў нехта з натоўпу.—Пусьці, расхісьніся, народ!..

Як ні здурэў прыстаў ад страху, як ні туманіў глузду яму зьняважаны гонар яго, як ні шалеў ён ад пачуцця уласнаго безсілля, але сьцяміў, што гэта піво-ні-пярэліўкі і трэба паслухаць інстынкту,даўно валаўшаго павярнуць аглоблі наўцёкі. А праканаўшыся, што трэ' уцекаць ад учынку ўласнаго глупства, ён раптам абмяк, пасавеў і сагнуўся. Пацёк пот у яго па твару, валасэ ліплі на лбе; палеты схіліліся і зьвісьлі на ніз, як у мокрае курыцы крылля. Задам, ні спускаючы воч з натоўпу, ён прапхнуўся да брычкі, дзе ужо сядзеў вурадвік с старшынёю, сеў, як мяшок, ды даў махні-драла. А ў сьлед за ім, як маханне шапак і хустачак пры адыходку цягніка, нясьліся жарты й сьмех, жаночыя «літанні» і дзіцячы плач...

Усё гэта Юзік успомніў. І цяпер, угледзіўшы маскаля з блісчастымі, як у прыстава, гузікамі, Юзік схаваўся за шуло ды стаў цікаваць: што ён там робіць, усьпершыся на пярыло? А маскаль [салдат] трымаў пад пахаю сякеру ды пыхкаў цыгарку.

Цыгарка ўжо дагарэла, але ён, мабыць, ні накурыўся, бо ні кідаў. Шчыльна трымаючы нідагарак у кіпцях, ён выцягваў губы, як-бы пнучыся пацалаваць печы твар у паветры, асьцярожна падносіў нідагарак да вуснаў, смачна смактаў ды уздыхаў на усе грудзі, пускаючы дым у тры рагі — з рота і з ноздраў. Гэтак зрабіў ён раз, другі і трэйці, а на чацьверты раз ні удалося: цыгарка згарэла і пасыпалася.Маскаль, мусіць, апёк сабе кіпці і губы, бо раптам хуркнуў і плюнуў; потым затрос пальцы у паветры ды, расьцёршы абчасам рэшты цыгаркі, стаў брыдка лаяцца. Юзік спалохаўся ды даў драла да дому.

Ні гледзячы на ніўдачу,—тым часам, гэтая падарож, ад хаты да вучылішча і ад вучылішча да хаты, мела свае добрыя скуткі: Юзік працерабіў сабе сьцежку да школы і набраўся адвагі. У другі раз ён быў сьмялейшы,—тым больш, што і на ганку нікога ні было. Тагды ён, як сьледна, трапіў да клясы і меў там з настаўнікам цікавую размову, а якую — хутка пабачым.

## II.

Юзік даўно ўжо зайдросна паглядаў на тых хлопцаў, што бегалі у школку: яму жадалося мець уласныя кнігі. А у вучняў заўсёды процьма уселякіх кніжак, пёрак, алоўкаў і паперы. Усе яны у вечар, прышоўшы да дому, пачынаюць нешта пісаць і чытаюць; потым нешта ўсё лічаць, рахуюць і с кніжак малюнкі рысуюць. А яму так хочацца пагортаць кніжку, паглядзець рысункаў, папісаць алоўкам, альбо пёркам па паперцы. Дык яму ні даюць, шкадуюць, або баяцца, каб ні падзёр кніжкі ды ні папсаваў пёрка. А ён, даліпан-жа, ніколі-б гэтаго ні зрабіў! Было такое здарэнне, дык — калі? Ен быў тагды зусім яшчэ маленькі і дурны ды ні ведаў, як што і да чаго.

Гэты выпадак трапіўся з ім летась на Коляды, тагды, як прыезджаў с сэмінарыі Антось наш на вакацыі. Антосю заманулося нешта парысаваць. Матка заслала стол чыстым абрусам, выцерла яму лаву ля столу, а сама легла сапачыць на печы. Дома нікога ні было. Адзін толькі Юзік сядзеў на палу ды рабіў сабе скрыпку з лучыны. Антось разлажыўся на стале,—дастаў алоўкі, паперы, скрылікі хварбы у жоўценькай, с чорным вечкам, скрынаццы; выняў лінейкі, пёркі, стрынгалі, як батлейчыкі, з блісчастымі вострымі ножкамі, ды, нахіліўшыся над папераю, стаў нешта малеваць, развеўшы хварбу у малюпаценькіх белых талерачках. Пакрэмзаўшы крыху, Антось кудысь адвінуўся,—мабыць выйшаў на двор, а Юзік, тым часам, кінуўшы скрыпку, ускочыў за стол, схапіў борздзінька аловак у руку ды давай шмараваць па шурпатай тоўстай паперцы. На паперцы быў нарысован якісь стаўбунец і намалёвана гвязда у розныя колеры. Юзік да іх ні дакрануўся, каб ні запэцкаць, а шмараваў алоўкам знізу, пад гвяздаю. Накрэмзаўшы кучкаў пяць кашы, ён маніўся ўжо скончыць ды йсьці дараблять сваю скрыпку, але зажадалося яму стрымацца, каб нарысаваць зверху крывульку. Дзеля лепшаго выканання, каб чарней вывесьці хвосьцік у гэтай крывульцы, дык ён паправіў другою рукою аловак у руцэ, нахіліўся бліжэй да столу, выцягнуў шыю, высалупіў язычок ды так моцна шмаргануў з боку на ліва, што аловак луснуў і адваліўся. Нарабіўшы бяды, ён азірнуўся і раптам пачуў, як застукала сэрцо і пагарачэло у сярэдзіні. Што рабіць? Ні чакаючы доўга, ён прутка скочыў на зямлю, узлез на тапчан, пералез цераз матку ды пытаіўся на печы за комінай.

У гэты момэнт рыпнулі дзьверы і — увайшоў Антось. Той быў пры добрым настрою і, уваходзячы ў хату, сьпеваў, а сьпеваючы, намагаўся узяць самую тоўстую актаву. «Пастыры граюць», сьпеваў Антось: «цудо, цудо паведаюць. Хрыстос радзіўся, Бог ваплаціўся!»—скончыў ён, зачыняючы хату. Сеўшы за стол, ён сьцепануўся ад холаду з падворку, зрабіў сабе цыгару ды зірнуў на паперы... потым на хату ды зноў на паперы. Цыгара патухла і прыліпла к губе. Антось устаў, аперся аб стол і, стоячы гэтак, паводзіў галавою то с хаты на паперу, то с папераў на хату. Уся постаць яго выяўляла адно дзіво і запытанне. Цуд ды годзі! І нікога, здаецца, у хаці ні было, а тым часам... цікавасьць!

Каб Антось знаём быў с спірытызмам, дык-бы напэўна пераканаўся, што «ёсьць на сьвеці нешта такое, мой друж Горацыо, чаго й ні сьнілі мудрацы».

Тым часам, ад напружэння, ці ад жары, ці проста ад пылу на печы, у Юзіка запершэло ў горлі і заказытало у носі. Ен ні стрымаўся і — чхнуў на усю хату... Вышло — простае тлумачэнне таёмнага зьяўлення...

Але-ж гэта было даўно, і цяпер Юзік сам добра ведае, што рабіць так ні можна і кепска. Цяпер такога глупства ён ніколі ні зробіць, бо ўжо ні маленькі і ні дурненькі...

А дома, апарт польскай Быблії, у парудзелых чорных вокладках, і кантычак, з абразікамі у сярэдзіні, Юзік жадных кніжак ні бачыў. Антось мае шмат кніжак, але-ж ён, гэтак сама, ні дае паглядзець і хавае у скрынцы. Хіба часам у вечар, як зьбяруцца да нас суседзі, пачытае «Сёмку», каторы адратаваў людзей, спыніўшы цягнік, трымаючы у руцэ, заміж сыгналу, выкачаную у сваю кроў хустку; або яшчэ «Гутарку Паўлюка», каторая натта прыкладна і сьмешна напісана. Чытаў ён раз пра тое, як маскаль ведзьмара падашукаў. Вот дзе было сьмеху!

Ведзьмар быў на вяселлі і вельмі хваліўся, што ён што захочэ, тое і зробіць. Людзі яго баяліся, наравілі, як той скулі, і паважалі, ні раўнуючы, як той бруд на трэсцы. Вось маскаль слухаў, слухаў, а далей і кажэ: «Гэ! Што ты за ведзьмар?! Вот я ведзьмар, дык ведзьмар! Захачу — дык зараз зраблю, каб табе вочы на лоб павылазілі».—А ну, зрабі!—кажэ ведзьмар.—«Добра!»—адказаў маскаль ды стаў гатавацца да чарадзейства. Дзеля гэтаго наліў шклянку гарэлкі, паказаў ведзьмару ды запытаў: «Бачыш, што гэта?» — «Бачу», кажэ ведзьмар: «гарэлка».—«Ну, вот і дзякаваць Богу. А цяпер стрывай крошку, васпане,—я мушу паваражыць», сказаў маскаль ды, адвярнуўшыся, усыпаў у шклянку табакі. А усыпаўшы, размешаў яе ды падаў ведзьмару, кажучы: «На, пі, але усю да кроплі, бо задушу!» Той пакаштаваў ды паставіў

арытмэтычны задачнік. Прачытаўшы, напрыклад, задач колькі, ён адвернецца, бывала, і загаворыць:

— Ніхай Госпад крые, колькі тых грошай на сьвеці! I за сукно плаці, і за цукар плаці, і за машыну плаці, — і на ўсё патрэбны вялікія грошы!

Толькі па-польску татулька нічога ў рукі ні бярэ, апрач Быбліі і кантычак. Быблія ўказаная кніга татулькі.

Дзьве рэчы мы маем — бязмен і Быблію, каторыя толькі на імя нашыя, а дома рэдка бываюць. Яны вандруюць с хаты у хату і абыходзяць па чарзе усё сяло, як вартаўніцкая булава. Розьніца толькі у тым, што булава сваім часам перадаецца па чарзе ад суседа к суседу, а Быбліі і бязмена ніколі ніхто ні прыносіць. Падчас трапіцца што зважыць, дык ідзі, расцытуй, шукай, дазнавайся; выпадзе вольная часіна, заманецца татульку пачытаць Быблію, дык Юзік усё сяло агасае, покі узабьецца на троп, у каго апошні раз яе бачылі.

III.

Усё гэта агулам зрабіло тое, што Юзік цьвёрда наважыў мець свае уласныя кніжкі. Дзеля гэтага, разумеецца, кірунак адзін: трэба пайці у школу.

Ніўдача першае падарожы да школы ні супыніла Юзіка. У другі раз, як і першага разу, ён ранінька устаў, апрануў матчын мантон (бо ўласнае вопраткі ні было), узлажыў сьвяточную Петраву шапку ды, паціху ад усіх, пачвалаў раніцай у школу. На гэты раз абышлося усё добра. Ні толькі на ганку у школі, а нават на вуліцы нікога ні было. Адно нечы кашлаты певянь ганяўся па вуліцы за курыцай да Замкова Катрэчка за невашта лаелася праз плот з Дзямідоваю Зуляй.

— Увесь род твой памаўзьлівы! — крычала Катрэчка.

— А тваю матку Сёмка злавіў у каморы, — адказала ёй Зуля.

— Калі? Скажы, калі, каб табе ў бокі калола! — узьелася тая.

— А летась на Сьвятка, як муку крала...

У школі, у сенцах, Юзік скінуў шапку ды стаў паціхіньку адчыняць тыя дзьверы, адкуль гуло, як з вулля. А расчыніўшы дзьверы, стаў на парозі ды, як стары, прывітаўся:

— Пахвалёны Езус Хрыстус!

У клясі зарагаталі. Юзік зірнуў і — угледзіў поўную хату дзіцячых вачэй. Яны бегалі, гэтыя вочы, блішчэлі, як зоры, сьмяяліся ды, як магнусам, прыцягвалі да сябе Юзіка. Тым часам, настаўнік, пахаджаўшы па клясі, падышоў да Юзіка. Юзік ведаў яго.

Настаўнік быў родам, як казалі, с-пад Ярэміч, і часта прыходзіў к Антосю у госьці. Бывала, у летку, многа зьбіралося настаўнікаў і сэмінарыстаў у нас у адрынцы. У хаці горача, цесна, «дух цяжкаваты», дык Антось жыў у адрынцы. Там і стол стаяў на таку, зэдлікі, а па сьценах былі развешаны малюнкі. Зышоўшыся, настаўнікі с пачатку заводзяць спрэчкі, потым граюць на скрыпках, сьпеваюць, а пад-вечар, як спадзе гарачыня, «маёўку спраўляюць». Гарэлку глушаць, як ваду. I натта-ж быў сьмешны наш настаўнік! Возьме пустую пляшку ў рукі, паціснье яе над чаркаю, а далей падніме ў гару ды засьпевае:

Меня над бочкой схороніце,
Паўным павнеханькай віна,
І так к ней кран вы проведзіце,
Что-б водка с крана в рот цекла!

Юзік ведаў гэтую песьню на памяць, але сьпеваць панскую саромяўся. Хай ім пусты сьвет з гэтымі панскімі песьнямі і з іх панствам разам! Ен раз — ні засьпеваў, а толькі так, зьнячэўку неяк ужыў адно панскае слова і тоаж цяпер горача робіцца с сораму.

Зажадаў ён раз малачка, а мо' і дапраўды жыватоқ забалеў. Вот ён зьвярнуўся да маткі ды кажэ:

— Ні табе кажучы, мамка, я нешта больной стаў. І годзі! У хаці як падхапілі гэтае слова, дык Юзік гарэў ад сораму. Чуць што, дык — «А дзе-ж гэта наш больной? Ці ні памёр наш больной, нешта ляжыць і ні варушыцца? — Добра больной, дзьве міскі крупніку зьеў ды яшчэ ні даволі! — А ці ні бачылі вы нашаго больнога?» I пашлі і пашлі! Хай ты згары саўсім разам!..

Усё гэта зрабіло тое, што Юзік ні вельмі спалохаўся, увайшоўшы у кляс.

— Чаго ты прышоў сюды? — спытаўся настаўнік.

— Вучыцца! — ні маргнуўшы вокам, адказаў Юзік.

— А колькі-ж табе год? —

— Восім, — салгаў Юзік і пасьміхнуўся.

— Ой, брэшэш ты, жэўжык? — ні даў веры настаўнік. Натта ты, брат, зялёны, мэрам учора з яйца вышаў!

— А я ўсе літары і абецадла с канца да канца ведаю! — сказаў Юзік ды борзьдзінька, каб ні перабілі, стаў пераказваць:

— a, b, c, d. e, f, l, m, n...

— Малайчына, малайчына! — чамусь басам загаварыў настаўнік: — але ідзі, брат, да дому, ніхай матка лепш верашчакаю корміць, — скарэй вырасьцеш...

Юзік так быў рад, што забыўся, па вошта прышоў. Доўга ні чакаючы, узлажыў ён шапку на голаў ды, рады і вясёлы, шпарка памчаўся да дому. Дома нікому нічога ні сказаў, каб ні пакеплівалі, мабыць, — але доўга кружыўся па хаці, скакаў на адной назе і сьпеваў:

Нашы едуць, вашы йдуць,
Нашы вашых падвязуць;
Вашы едуць, нашы йдуць,
Вашы нашых падвязуць!
Як і у нас, так і у вас, на вуліцы елка, —
Па сто рублёў кавалер, па тры грошы дзеўка.

(Канец будзе).

**Язэп Ліосік.**



**Францішак Алехновіч.**

# У лясным гушчары.

*Казка у 1 акці.*

АСОБЫ:

Дзіця. 1 Ліхо.
Баба-Яга. 2 Ліхо.
Бай. Зьвяры ды розные страхоцце.

Лес. Сонцо схавалося за небасхіл. На сцэну уваходзіць **Дзіця** с кошычкам ягад.

ЗЬЯВА I.

**Дзіця.**

Дзіця. (Клічэ) — Го-го-о! (Гаворэ). Ах, Божэнька ты мой! Вось блутаюся ды блутаюся па лесі, а дарогі да хаты ні магу знайсьці!.. Ужо сонейко зайшло, усе у хаці вячэраюць, а я тутака спатыкаю ноч, — у гэтым гушчары. I есьці хочацца і страх бярэ! А гэтыя ягадкі я абецалася назьбіраць для мамы; ні буду іх чапаць, ніхай будзе поўны кошычак... Нідзе ні відаць дарогі!.. Нейкае знаемае мейсцо!.. Трэба яшчэ паклікаць, мо' нехта адклікнецца... (Клічэ): Го-го-о!

(За сцэнай чуваць адказ: Го-о-о!)

Дзіця. Вось, дзякуй Богу, нехта адклікнуўся! Пабажуць

мне дарогу да хаты... (Ізноу клічэ): Го-го-о! (Гаворэ): Ось, бачу, ідзе сюдой якаясь бабулька с кійком у руцэ... Ну, цяпер ужо німа чаго баяцца: яна пакажэ мне дарогу або пераначавваць пазволіць у сябе.

ЗЬЯВА II.

**Дзіця і Баба-Яга** (уваходзіць).

Баба-Яга. Ты чаго тут крычыш-гукаеш дый палохаеш маіх зьвяроу і птушак? Лес ужо сьпіць... Чуеш,—ужо ціш? Кожная птушка, траука, матылек, кожнае дзерауцо хочэ сапачыць...

Дзіця. Бабулька! Пайшла я у лес ца ягадкі дый заблудзілася. Дауно ужо дарэмна шукаю дарогі да хаты. Нідзе німа жывой душы, каб вывясьці мяне куды трэба... Бабулька! мо' ты скажаш мне, кудой ісьці?

Баба-Яга. А, заблудзілася!.. (Хітра): А ягадкі свае ты мне дасі? Я сягоння нічагусенькі яшчэ ні сла...

Дзіця. Я гэтыя ягадкі зьбірала для сваей хворай мамы, але, калі ты галодна, дык маеш, бяры. Я заутра зноу для мамы пазьбіраю.

Баба-Яга. Ну, добра... Калі так, дык я дам табе магчымасьць вярнуцца дамоу... (Дае клубок). Вось, маеш клубок: кінь яго на зямлю і скажы: «Клубочак! каціся-каці, мяне да хаты давядзі!..» Ен пакоціцца, а ты ідзі за ім, і ен цябе давядзе аж да самай хаты, і тады скрозь зямлю праваліцца... Ды толькі памятай: ідзі наперад, усе наперад за клубочкам, нікуды ні аглядайся, нічога ні палохайся ды ні спускай вачэй с клубочка,—бо, калі ні паслухаеш мяне, клубочак ад цябе уцячэ, а ты ізноу заблудзішся. А калі у другі раз прыйдзеш у мой лясны гушчар, тады ужо дабра табе ні будзе! Я—Баба-Яга, усіх ведзьмау гаспадыня! Цяпер я зьлітавалася над табой, бо ты дала мне выкуп—ягадкі свае, а у другі раз я цябе зьем! (Выходзіць).

ЗЬЯВА III.

**Дзіця** (адно).

Дзіця. О, Божэ-ж мой! Дык гэта-ж ведзьма! Ах, як добра, што яна зьлітавалася і дала мне гэты заваражаны клубок,—ен мяне завядзе да хаты, да маей мамы, каторая ніцярпліва мяне чакае і плачэ цяпер, пэуне, бедніцькая... Ну, трэба-ж хутчэй уцякаць адсюль і зрабіць, як казала Баба-Яга. (Кідае клубок на зямлю). Клубочак, каціся-каці! Мяне да хаты давядзі! Клубочак, каціся-каці! мяне да хаты давядзі!...

(Клубок коціцца. Дзіця ідзе за ім).

ЗЬЯВА IV.

**Два Ліхі** (убегаюць з розных бакоу).

1 Ліхо. Чуу?
2 Ліхо. Але.
1 Ліхо. Трэба клубок адабраць!
2 Ліхо. Трэ' напалохаць дзіця!
1 Ліхо. Дарогу памыліць!
2 Ліхо. Дзіця бяжыць...
1 Ліхо. Клубок прад ім...
2 Ліхо. Яно за ім...
1 Ліхо. Бяжыць, бяжыць...
2 Ліхо. Трэ даганяць!
1 Ліхо. Клубочак узяць!
1 і 2. Хутчэй! хутчэй!
2 Ліхо. Я вагністай куляй дарогу перабягу.
1 Ліхо. Я вялізарнай жабай гляну с паміж кустоу.
1 і 2. Хутчэй! хутчэй! (Выбегаюць у той бок, куды пайшло Дзіця).

ЗЬЯВА V.

На сцэну уходзяць **зьвяры** і рознае **страхоцце**. Скачуць нейкі фантастычны танец. Посьля першы **Страх** гаворэ:

І Страх. Ціха!.. Там нехта ідзе!
Усе. Дзе?
І Страх. Вось там!.. Нейкае дзіця!..
Усе. Дзіця...
І Страх. Хавайцеся!
Усе. Хавайцеся! (Разьбегаюцца у розныя бокі).

ЗЬЯВА VI.

**Дзіця** (уваходзіць).

Дзіця. Ізноу я зьбілася з дарогі! Клубочак каціуся ды каціуся, я ішла за ім... раптам пачаліся страхі: з гушчары выкаціілася якаясь аграмадная вагністая куля... Посьля раптам паміж кустоу нешта страшэнна запішчэло. Глянула я, ажно там агромністая жаба, вялікая, як хата, а вочы так бліщчаць, так бліщчаць, бытцам лямпы якісь... Я страшэнна спалохалася, заплюшчыла вочы, посьля гляджу—ажно майго клубочка ужо німа! Недзе прапау, як камень у воду...Што мне рабіць? Зусім я замарылася! Трэба будзе хіба тутака пераначаваць, ці што, а заутра, як толькі сонейко узойдзе, трэ' будзе ізноу шукаць дарогу... Там мамачка мая заплачэцца мусіць без мяне! Ах, Божэ мой! вось дык нішчасьце! У другі раз так далека па ягадкі ні пайду... Ну, тут пад гэтым кусьцікам засну, трэ яшчэ толькі памаліцца... (Укленчыушы гаворэ): О, Божэ мой, мей літасьць нада мной заблуджанай! Нікога тут німа, хто-б пашкадавау мяне, адна у лесі начаваць тут буду я... О, Божэнька Ты мой! Дай маме супакой, а мне сон ціхі дай! (Кладзецца пад кусьцікам і засыпае).

ЗЬЯВА VII.

**Дзіця і лясныя духі** (памалу уваходзяць).

І Страх. Бач! Яно сьпіць!
II Страх. Што нам рабіць? Гульню нам папсавала. Цяпер спаткаць яе павінна кара: ніхай сьніць —сон страшны!
Усе. Ніхай сьніць—сон страшны!

(У скоках пачынаюць кружыцца навокал Дзіцяці).

ЗЬЯВА VIII.

**Тыя-ж і Баба-Яга** (уваходзіць).

Баба-Яга. Вы тут чаго? Пара вам спаць! Ні чулі, што певянь ужо пеяу? А кыш! Пара вам спаць, а ні гульні спраулядь! А кыш! а кыш! а кыш!

(Страхоцце разьбегаецца у розныя бокі).

ЗЬЯВА IX.

**Баба-Яга і Дзіця**, пасьля **Ведзьмы**.

Баба-Яга (падыходзіць да Дзіцяці). А—ты ізноу тутака! Ні паслухала маей перасьцярогі, ну, цяпер ужо блага табе будзе! (Клічэ): Гэй, ведзьмы! (Ведзьмы убегаюць). Распалеце агонь у маей хатцы на курынай лапцы,—будзем вячэру сабе гатаваць! (Ведзьмы выбегаюць). Ну, дзетачка, уставай! У першы раз я зьлітавалася над табой,—дала табе клубок і перасьцярогу, цяпер—у другі раз—ты згінеш-прападзеш! Вось зара мы цябе зьямо!

Дзіця (Разбудзіушыся). Ай, ведзьмачка, цетачка, бабулечка! Пусьці! ні еш мяне!

Баба-Яга. Хадзі! (Цягне дзіця за руку). Пакуль мае слугі распаляць у печы агонь, я зачыню цябе у складзіку. Хадзі!

Дзіця. Ай, ведзьмачка, Ягінечка, бабулечка, пусьці мяне! Ні еш мяне! . цетачка!.. (Выходзяць).

ЗЬЯВА X.

**Два Ліхі** (убегаюць).

1 Ліхо. Чуу?
2 Ліхо. Але.
1 Ліхо. У складзік ведзьма зачыніла.
2 Ліхо. Там яму будзе сьмерць-магіла.
1 Ліхо. Трэба на злосьць ведзьме зрабіць!
2 Ліхо. Трэба Дзіця пусьціць!
1 і 2. Хутчэй! хутчэй! (Выбегаюць у той бок, кудой пайшла Баба-Яга).

